№ 75. 31 кастрычніка 1916 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# ГОМАН

БЕЛАРУСКАЯ ВІЛЕНСКАЯ ЧАСОПІСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У ТЫДЗЕНЬ: У АЎТОРКІ І ПЯТНІЦЫ.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.

Адрэс адміністрації і экспэдыції: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

## Удачы у Вялікай Валахіі.

## Больш за 700 палонных.

### 30 кастрычніка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Шмат у якіх мейсцох на фронці Соммы быў сільны агонь ворагоў, на каторы мы цьвёрда атказывалі. У часі атакі на Лебэф—Морваль ворагам удалося на вузкім фронці пашырыць мейсцо прарыву ў нашым пярэднім акопі, на ўсходзі ад Лебэф, у палудзенным кірунку. На ўсіх іншых пунктах, дзе ворагі прайшлі цераз наш зашчытны агонь, мы іх крывава адбілі. На палудзенным беразі Соммы апешы полк № 359 здабыў хвацкім штурмам хутар Лямэзонэтт і францускіе пазыціі, каторые адтуль цягнуцца да Б'яш. Штурм быў добра падгатован артылерыей. Узяты 412 палонных, між імі 15 афіцэроў.

*Фронт нямецкаго Насьледкіка*: На паўночна-усходнім фронці проці Вэрдэну трывала артылерыйская бітва.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Прыгатованы с самымі вялікімі затратамі амуніціі массовы расейскі штурм зломлен зашчытным агнём с крывавымі стратамі на заходзі ад Пустомыта і скора пасьля гэтаго на ўсходзі ад Шэльвова.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:* У лясістых Карпатах і сумежных ад поўдня вэнгерска-румынскіх гранічных ваколіцах пры дажджлівай пагодзі было спакойна, ня лічучы патрульных опэрацій. На палудзенным усходзі ад праходу Чырвонай Башні рашырэны удачы егроў ад учорашняго дня і ўзяты штурмам некольві румынскіх пазыцій на вяршынах, ня гледзячы на упорную зашчыту. У апошніх бітвах у гэтых ваколіцах узяты ў палон 18 афіцэроў і больш за 700 салдатоў. На палудзенным заходзі ад праходу Шурдук румыны адціснулі назад адну з нашых бакавых калонн.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт Макензэна*: У паўночнай Добруджы нашы атрады, каторые вядуць пагоню, стыкаюцца ўжо з расейскай пяхотай і конніцай.

*Македонскі фронт:* Пасьля сільнай артылерыйскай падгатоўкі сэрбскіе і францускіе войскі вялі чысьленые атакі сперша на вузкім, а пасьля на шырокім адрэзку проці нямецкіх і боўгарскіх пазыцій. Атакі зусім не ўдаліся пад зашчытным агнём, а на паўночным усходзі ад Вельесэльс — спатканые контратакай. Так сама дарэмны былі наступленьня ворагоў пры Кенулі і Градэшніцы.

БЭРЛІН. Начальнік 14 рэзэрвнаго корпуса ген.-лейт. ф. Штэйн, быўшый у пачатку вайны генерал-кватэрмістрам і рэдактарам ваенных апавешчэньнёў, назначэн **прускім ваенным міністрам** замест Вільд ф. Гогэнборн'а, каторы атрымаў корпус на Заходзі.

НЬЮ ІОРК. Газэта «Boston Transcript» друкуе сэнсацыйную стацьцю, ў каторай гаворыцца:

„Мы стаім перад **крызісам на Далёкім Усходзі.** Вінавайца крызіса—не Амэрыка і не Кітай, а толькі Японія, каторая ўступіла ў становчы момэнт сваіго нацыянальнаго жыцьця“.

Стацьця пазываецца на дзьве японскіе газэты, каторые пішуць:

„Ужо перад прыняцьцем мейсца міністра-прэзыдэнта графа Тэранухі ўважалі за чэлавека, адпаведнаго для сучаснаго момэнту“.

## З апошніх дзён.

—8—

### Нямецкіе апавешчэньня.

27.X. **Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Пры сільным агню артылерыі, на поўначы ад Соммы былі толькі патрульные бітвы. На палудзенным беразі недапушчэна развінуцца атака французоў, каторая ладзілася на адрэзку Фрэн—Мазанкур—Шольн.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: На ўсходнім беразі Маасу між Перцовым хрыбтом і Вэврам была ў дзень вострая артылерыйская бітва. У палудзень французы атакавалі нашы пазыціі на ўсходзі ад Дуомон і былі адбіты са стратамі.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* На Шчары расейцы ешчэ двойчы дарэмна прабавалі штурмаваць. У усьці Ведзьмы сілезкі ляндвэр здабыў расейскую пярэднюю пазыцію з 1 афіцэрам і 88 салдатамі. На фронці проці Луцка, на адрэзку Кіселіна, сільны расейскі артылерыйскі агонь. Пачаўшаяся за ім атака разбіта перад нашымі загарадзямі.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:* У палудзеннай часьці лясістых Карпатоў адбіты расейска-румынскіе штурмы. На палудні ад Прэдэалю і ў кірунку Камполунг мы, атакуючы, пасунуліся ўпярод

**Балканскі тэатр:**

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: Пагоня за разбітай Добруджскай арміей трывае далей. Злучэные арміі дайшлі да Гардовы.

28.X. **Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На паўночным беразі Соммы ізноў узняліся пешые бітвы. Пасьля сільнай артылерыйскай падгатоўкі пачаліся штурмы англічан на лініі Гэдэкур—Лебэф, французоў— на адрэзку Морваль. Нашае войско адбіло саюзьнікоў артылерыйскім і кулемётным агнём, а на паўночным заходзі ад Морваль — штыкамі. Ўсе пазыціі асталіся ў нашых руках.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На ўсходзі ад Маасу ізноў узняліся цяжкіе, удачные для нас бітвы. Пасьля вострага агня артылерыі з лесу Тіомон, наабапол форту Дуомон і ў лесі Рюмэн штурмавалі вялікіе францускіе сілы, каторые зломлены без астатку перад нашымі лініямі з вялікімі стратамі.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Пасьля двохдзённаго артылерыйскаго агня на лініі Луцка расейцы ізноў атакавалі пры Затурцах. Штурм разбіт без астатку с цяжкімі стратамі.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля*: Наабапол Дорна Ватра аўстрыякі ўварваліся на расейскіе пазыціі і здабылі некольві вяршын, узяўшы ў палон 8 афіцэроў і некольві сот салдатоў.

На *Семіградзкім фронці* бітвы трываюць у гранічных далінах. На палудні ад Кронштадту нашы злучэные войскі здабылі румынскую вяршыну і скінулі ворагоў у даліну Парчулі.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* У паўночнай Добруджы нашы атрады, гонючыся за ворагамі, спатыкалі слабы адпор. Узяты 500 палонных, некольві табороў з амуніціей і багажом.

*Македонскі фронт*: Сэрбскіе атакі проці нямецка-боўгарскіх пазыцій у закруце Чэрнай неўдаліся гэтак сама, як і наступленьня ворагоў на склонах Моглены і на паўночным заходзі ад возера Дойран. На Струме стычкі патрулёў; пры Орфано—сільны агонь артылерыі.

29.X. **Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Між Гэдэкур і Лебэф, пасьля сільнаго агня, ішлі штурмы англічан, каторых мы адбілі часьцю артылерыйскім агнём, часьцю штыкамі. Пры гэтым знішчэны агнём артылерыі два панцырные аўтомобілі ворагоў. Крыху пазьней на ўсходзі ад Лебэф на нашы пазыціі ўварваліся дзьве роты ворагоў. Бітва ешчэ трывае.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На ўсходнім беразі Маасу артылерыйская бітва момэнтамі даходзіла значнай сілы.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Бліэка на ўсей лініі Стохода у расейцоў быў сільны агонь, каторы на паўночным заходзі ад Луцка быў вельмі востры. Расейскі штурм з лясістай ваколіцы на ўсходзі ад Шэльвова зломлен нашым зашчытным агнём.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля*: На ўсходняй часьці фронту ў Семіградзіі—нічога новаго. На палудні ад праходу Тэмэс штурм дайшоў да Атсугі. Ня гледзячы на цьвёрды адпор, мы пасунуліся ў кірунку Камполунга і на заходзі адгэтуль.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* Палажэньне без перамен.

*Македонскі фронт*: На палудзенным усходзі ад Кэнаі і ў закруце Чэрнай атакі ворагоў крывава адбіты.

**Гл. тэлеграмы на 4 страніцы.**

## На правільнай дарозі.

З Расеі весткі аб беларусах даходзяць вельмі скупа, ды яны часта зусім нязгодны адна з адной. Мы у свой час перэдрукавалі выступленьне проці беларусоў «Нов. Врем.»: газэта клікала расейскі урад і расейскае грамадзянство да поўнаго зніштажэньня беларушчыны. А сьледам за гэтым праз газэты дайшлі нейкіе глухіе чуткі, што расейцы пачынаюць рабіць нейкіе уступкі беларусам, што ў Пецярбурзі атрыўся беларускі камітэт помачы ахвярам вайны, што яму аказвае помач «Татіянінскій» камітэт, каторы у свой час у Вільні зусім не прызнаваў беларусоў і не памагаў ім. Цяпер-жэ ізноў курс расейскай палітыкі кіруецца проці «інородцоў», асабліва-ж проці украінцоў, і нет ведама, ці не адаб'ецца гэта дрэнна і на беларусах.

Як бы там ні было, якіе перамены ні рабіліся бы ў унутрэнай палітыцэ Расеі, мы можэм цьвёрда сказаць адно: с таго часу, як у занятых немцамі землях рух беларускі пачаў шыбчэй развівацца, як беларусы паднялі свой голас, разам з другімі уціскаными народамі Расеі перад усім культурным сьветам,—адным словам, як беларускае грамадзянство, ня гледзячы на разгром нацыональных сіл пад-час вайны, выявіло тут сваю жыцьцёвую сілу і здольнасць да творчай культурнай працы,—с таго часу расейскае правіцельство і кіраўнічые кругі ў Расеі пачалі інач эй глядзець на беларусоў, чым дагэтуль глядзелі. Перш іх лічылі за нішто, за «этнографічны матэр'ял», каторы проста трэба перэрабіць на маскоўскі лад; цяпер пачынаюць «палітыкаваць» з беларусамі, шукаючы спосабу паняволеньня іх то дробнымі уступкамі, то ізноў рэпрэссіямі, пужаньнем іх і т. д.

Гэта паказвае нам ясна, што беларусы з гэтаго боку ваеннаго фронту пайшлі па зусім правільнай дарозі, што іх праца дзеля збудаваньня асноў для самабытнаго культурнаго жыцьця мае вагу, мае будучыну. Як нам давялося чуць ад прэдстаўнікоў нямецкай уласьці, каторые аб'ежджалі нашы вёскі, нават у значна спольшчэных ваколіцах Вільні некаторые воласьці самі заяўляюць, што ў іх жыве беларускі народ, што ім патрэбны беларускіе школы. Нават і там, дзе селяне праз сваю цемнату і праз несумленную агітацію не прызнаваліся да беларушчыны, старасты выпісываюць і чытаюць найболей беларускую газэту, як найбольш зразумелую для іх. І з гэтаго бачым, што нацыональная сьведомасць у нас узрастае ўсё шыбчэй,—а тое, што мы цяпер на гэтай дарозі здабудзем, не прападзе ўжо ні пры якіх варунках. А тая кузьня культурна-нацыональнай працы, каторую мы тут цяпер закладаем, будзе працаваць ня толькі для гэтай часткі нашаго народу, якая звольнена ад старога уціску, але і для ўсей дзевяцімільённай Беларусі. Кожын наш крок упярод тут, з гэтаго боку фронту, адаб'ецца на жыцьці братоў нашых за фронтам.

Сьмела-ж упярод! Вочы ўсяго беларускаго народу звернены цяпер на нас, і мы не павінны ашукаць пакладанай на нас яго надзеі і спадзеваньня.

*І. Мелешка.*

## У Вільні і ваколіцах.

× **Саксонскі кароль у Вільні.** У сваей падарожы па Беларусі саксонскі кароль 26 кастрычніка заехаў з Гродны ў Вільню. З Замковай гары кароль даволі доўга агледаў места і ваколіцы. Апрыч таго, ён аглядзеў і іншые выдатные мейсцы сталіцы нашаго Краю.

× **Беларускі тэатр.** Беларуская драматычная дружына маніцца ў гэту нядзелю паставіць дзьве п'есы: драматычны абразок Э. Ожэшко „У зімовы вечар“ і камэдію „Міхалка“.

„У зімовы вечар“—гэта п'еса, аснованая на чыста беларускіх бытавых матывах, і становіць вельмі пекную ілюстрацію да жыцьця беларускай вёскі. „Міхалка“—вясёлая камэдія, каторая дае магчымасць шчыра пасьмеяцца

У бліжэйшым часі беларуская драматычная дружына прыгатаўляе новы сцэнічны твор з віленскаго жыцьця.

× **Беларуская вечарынка.** Хаця гэтым разам—у мінуўшую нядзелю—Беларускі Клюб наладзіў вечарынку без музыкальна-вокальнаго аддзелу, абмежываючыся танцамі, аднак народу сабралося даволі многа, і жывые скокі трывалі ўвесь вечар.

× **Беларускі календар.** Як і тые гады, мае выйсьці на 1917 год беларускі календар.

Выдавецтво будзе закончэно у скорым часі, каб кожын мог загадзя прызапасіць календар на новы год.

× **У беларускай коопэратыве „Райніца“** атрыманые на прадажу паводлуг карт два вагоны бульбы ўжо ў тым тыдні распрададзены. Ждуць ускорасьці новаго транспорту.

× **Арбітраж.** 26 кастрычніка угодлівы суд між кватэрантамі і гаспадарамі дамоў разгледаў першы раз дзьве справы—с прычыны споркі між кватэрантамі і гаспадарамі іх дамоў. Абедзьве староны зусім згодзіліся с пастановай суда і выйшлі зусім здаволеные ею.

Гэтымі днямі угодлівы суд будзе разглядаць ешчэ некалькі спраў. Цікава адзначыць, што да яго звертаюцца ня толькі кватэранты, але і гаспадары дамоў. Відаць, што думка наладзіць яго была зусім правільная, і сьведомасць патрэбы гэткаго суда шырыцца між віленскім грамадзянствам даволі шыбка.

× **Галоўшчына.** Спісы раскладкі галоўшчыны можна разгледаць ад 30 кастрычніка да 12 лістапада ў аддзелі падаткоў, Дамініканская 2, толькі паказаўшы пашпарт Обэр Ост. Падатак гэты трэба заплаціць у Stadtkreiskasse не пазьней 15 лістапада. Просьбы аб паменшэньні трэба падаваць на імя Stadthauptmanna, але яны не даюць права адкладаць аплату падатку.

× **Прадажа карбіду.** Карбід у местовых крамах у малых мерах прадаецца толькі асобам, каторые давядуць, што ў іх ёсць карбідные лямпы. Гэтымі днямі паступяць у прадажу і самые лямпы.

× **Вольная прадажа тканін і вязальных вырабоў.** Валадзельцы запасоў менш 1000 арш. могуць паступаць з імі, як хочуць. Валадзельцы запасоў больш 1000 арш. могуць прадаць тры чверці заяўленых запасоў, але агулам ня болей 3,000 арш. У каго ёсць коўдры, прастыні і хусткі, гатовая мужчынская адзежа, кашулі і парцянкі, той можэ вольна распараджацца дзьвема трэцінамі заяўленаго запасу.

× **Матэр'ялы для праводкі электрычнасьці у дамы** у скорым часі прыбудуць у Вільню, і тады будуць прылучаць да местовай сеці гасподы тых асоб, каторые аб гэта прасілі.

× **Акружны суд** засудзіў на 2000 марак штрафу упраўляючаго гарбарняй Суравіча, Вульфа Брамсона, за укрываньне запасоў скуры. Апрыч таго суд загадаў сконфіскаваць укрытую скуру цаной каля 300.000 марак.

× **Танная страўня для інтэлігенціі** гэтымі днямі адкрыта ў гасьцініцы «Імпэріаль», пры Нямецкай вуліцы.

× **Курс рубля:** офіцыальны — 1 м. 90 фэн. за рубель; ў банках пры прадажы — 1 м. 94 ф., пры куплі—1 м. 98 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

## З усяго Краю.

### Обэр-Ост.

«Lib. Z.g.» апісывае Обэр-Ост гэтак:

„Межы упраўленьня Обэр-Ост раскінуліся ад Рыжскай затокі да чыгункі Варшава Брэст-Літ., даходзячы на ўсходзі амаль не да самай лініі агня, бліскучай стальлю. Абшар упраўленьня—112.000 кв. кіломэтроў. Курляндія, Літва, значная часць Беларусі і паадзінокіе часьці б. Царства Польскаго знаходзяцца ў межах Обэр Ост. На гэтых землях жывуць беларусы, жыды, латышы, літвіны, немцы і палякі. Расейцы, каторые калісь, як здавалося, павінны былі тут панаваць, на шчасьце, счэзьлі разам с пабітымі ворагамі,—а разам с тым, трэба думаць, счэзьне і накіданая жыхарам краю чужая мова, і аб ёй зусім забудуцца.

«На гэтых землях, пакінутых чыноўнікамі і ўсемі урадамі, забраўшымі с сабой усе дакумэнты, прышлося ўсё адбудоўваць ад самых асноў. Асаблівые варункі і суседзтво с фронтам вытварылі і асаблівае упраўленьне чыста ваеннаго характэру. Упраўленьне Обэр-Ост апіраецца на раздзелі зямель за фронтам на этапныэ землі армій. Бадай усе уряднікі (чыноўнікі) — гэта ваенные і прыслухаюць у межах Обэр-Ост ваенным урадам. Дзелаводзтвам у упраўленьні ўсемі землямі кіруе обэркватэрмістр пры глаўнакамандуючым на Усходзі.

«Усе землі Обэр-Ост пабіты на пяць акругоў упраўленьня (Курляндія, Літва, Вільня - Сувалкі,

Максім Горэцкі.

## Наш тэатр.

### III.

Я чуў, што цяпер шмат хто з нашых пісьменнікоў працуець над тэатральнымі творамі. Ой, як гэта добра! Ніхай сабе будуць неўдалы, цяжэнькі, праўда, мукі слова,—але без працы і саўсім нічога ня выйдзець.

А у нас людзей-таланёў ёсць, каб толькі яны не закапывалі сваіх талентоў у зямлю. Колькі скарбаў у нашай зямельцы, колькі энэргіі ў нашых рэчках, у нашым ветру, колькі сілы ў нашым лесі, і што-ж? Зямелька пад каменьнем, лясы зніштаюцюцца і па абмялеўшых рэчках нясуць цеплавую энэргію ад перэкалелаго беларуса к немцу. А вецер наш „гудзіць“ у зімку „ў комінах“, безперэстанку „хістаець пахілые, сумные бярозы“... Але-ж і за гэта яму дзякуй, бо хоць ёсць бяздоннае жэрало і невыцечная крыніца матэр'ялу для вершыкоў нашым маладым і „даючым спадзеваньня“ пісьменнікам. „Беларусы ня маюць у сабе крыві фінскай ды тюркскай, яны найчысьцейшы славянскі тып, і праз тое іх народная славянская паэзія страшэнна багата, цікава і орыгінальна“, — во як гавораць аб нас людзі, а мы, заплюшчыўшы вочы, пнёмся шукаць прыгожасьці ў чужым загуменьню...

Але не,—беларус умеець працаваць: ці не яго мазалістымі рукамі праведзены бадай усе чыгункі ў Расеі? Толькі беларусу дагэтуль не давалі карыстаць са сваей працы, і ён ужо забыўся, як можна добра скарыстаць з яе...

Блізка што ўсе драматычные творы, якіе цяпер ёсць на беларускай мове, яны толькі невыразны цянёк ад таго жыцьця беларускаго, якое павінно быць паказано перш-наперш беларусу са сцэны.

### IV.

А трэба паказаць беларусу са сцэны, што так жыць, як ён жывець, ня можна: гэткае жыцьцё ня можэ трываць...

І трэба ешчэ паказаць беларусу са сцэны, што ён—чэлавек, і што ён павінен мець свой чэлавечы гонар і павінен дзетак сваіх гадаваць с сумленьнем...

І трэба ешчэ сказаць беларусу са сцэны, што калі ён праваслаўны, то ніхай ня лаець свайго брата каталіка-беларуса „палякам“, і калі ён каталік, дык ніхай лічыць сябэ беларусам, а беларуса-праваслаўнаго — сваім братам, і абодвы беларусы, каталік і праваслаўны, ніхай шануюць веру і добры сьветагляд адзін другога і веру ўсякаго сумленнаго чэлавека, ўсякай нацыі...

І трэба паказаць беларусу са сцэны, што ён маець слаўнае прошлае, што яго дзедаўшчына нароўні с крапчэйшымі старонкамі пад сонцэм была, і што карэні нашы родные, беларускіе не згнілі, трывалы і цягучы, маюць жывы сок і жывую сілу і ўжо добрые адросткі к небу гонюць, а с часам над імі крэпкіе, высокіе, прыгожые дрэвы закрасуюцца...

І трэба паказаць беларусу са сцэны, што за чэлавек той, каторы сьпіць без канца-краю, якой вартасьці такі чэлавек і што жджэць яго у будучыне...

І трэба паказаць са сцэны беларусу, у які бок кіравацца яму, па якому „шляху жыцьця“ пайсьці і якім чынам сілы фізычнай і духоўнай набрацца...

І трэба крыкнуць беларусу са сцэны, каб ён гарэлкай не заліваўся; трэба сказаць яму і многа-многа чаго другога..

Патрэбна паказаць з беларускай сцэны другім народам зямным, што за народ такі ёсць беларусы, што маюць яны ня толькі „очень смѣшные анекдоты и весьма странныя суевѣрія“, а й нешта палепш ад жарту і забабонаў, нешта гэткае, прад чым прыемна адчыніцца агульна людзкая скарбніца векавечных забыткаў культуры і цывілізацыі, а ня то што...

Гродна і Беласток); кожным округам упраўляе начальнік упраўленьня (Schef der Verwaltung). Округ упраўленьня дзеліцца на паветы са сваімі начальнікамі; паветы — на воласьці (Amtsbezirk) з валасным старшынёй (Amtsvorsteher), каторы ў местох называецца бургомістрам. Amtsbezirke (воласьці) дзеляцца на Gemeinde (грамады), над каторымі стаіць Gemeinde-або Ortsvorsteher (староста).

«Што работа ў Обэр-Ост кіпіць, відаць с таго, што ў межах яго абсеяно сёлета больш зямлі, чым было абсеяно перад вайной. Слухмянае, але мала энэргічнае і шмат паменшаўшае насяленьне с падмогай нямецкаго упраўленьня шыбка палажыло фундамэнт для будучаго дабрабыту. І небо шчодра нагрaдзіло яго за працавітасць. У межах Обэр-Ост ураджай быў такі, што ўсе надзеі ворагоў уморыць голадам аказаліся пустымі. Само сабой разумеецца, што упраўленьне не закрывае вачэй на тое, што ў гэты ваенны час зроблены толькі першые крокі для шчасьлівейшай будучыны Краю».

**Упраўленьне Беласток-Гродна.**

Упраўленьне Гродна, па загаду Глаўнакамандуючаго на Усходзі, касуецца 1 лістарада г. г. і злучаецца ў адно з упраўленьнем Беластоку, каторае адгэтуль будзе называцца «Упраўленьне Беласток-Гродна». Усе выданые начальнікам упраўленьня Гродны прыказы і загады маюць сілу датуль, пакуль яны ня будуць спэцыальна скасованы.

**За помач расейцам.**

ГРОДНА. Грамада Вялікая Цьвержэніца аштрафована на 1.900 м., Краніка — на 2.000 м. і Зобжов — на 950 м. за тое, што жыхары гэтых грамад давалі прытулак расейскім палонным, давалі ім страву і не данасілі аб іх.

**Пажар ад неасьцярожнасьці.**

ЗАПОЛЕ (округ Мосты). Тут узняўся вялікі пажар, ад катораго ў самы кароткі час згарэло 17 дамоў і 9 гумен. Прычына пажару, як думаюць, — неасьцярога дзяцей з агнём. Аб гэтым ешчэ йдзе сьледзтво.

**Караімы.**

ТРОКІ. Як вядома, тут пражывае духоўны галава караімоў, жыдоўскай сэкты, злажыўшайся ў VIII сталецьці ў Вавілоне. Часць караімоў, каторые называюць сябе «Б'нэ Мікра», значыць, вучнямі Біблії, перэсялілася у Крым, а адтуль у пачатку XV сталецьця — ў Літву на прызыў Вялікаго Князя Вітаўта, каторы, як вядома, ў справах веры не рабіў ніякай розніцы. Галаву караімоў Вітоўт пасяліў у свае рэзыдэнціі — Троках. Калі-ж палітычнай сталіцай Літвы сталася Вільня, галава караімоў астаўся ў Троках, дзе і дагэтуль жывуць блізка адны толькі караімы.

**Страўня для ўсіх.**

МІТАВА. 1 лістапада тут аткрываецца страўня для людзей сярэдняго стану. З яе можэ карыстаць усё насяленьне, ў тым ліку і больш інтэлігентные людзі.

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

**Расейскіе страты.**

БЭРЛІН. Паводлуг апошняй справоздачы кіеўскаго цэнтральнаго статыстычнаго бюро страты расейцоў да 1 чэрвеня г. г. даходзяць 1.797.522 душ. У тым ліку афіцэроў 85.981. Страты лятуноў — 49 душ. За апошні час забіты 2 генэралы, 6 палкоўнікоў, камандаваўшых брыгадамі, 8 палкоўнікоў, камандаваўшых палкамі. Найбольш страт мелі сібірскіе корпусы і каўкаская конніца.

**Палонные расейцы ў Турэччыне.**

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. Тут чакаюць 1538 расейскіх палонных с 7 афіцэрамі з апошніх бітв у Добруджы.

**На палудзенным фронці.**

ШТОКГОЛЬМ. З гутарак з ваеннымі аўторытэтамі «Реч» выводзіць, што с прычыны дрэннай пагоды на палудзенным фронці опэрацыі тамака сёлета павінны прыпыніцца. Гэта адносіцца найбольш да адрэзкоў Сьвінюхі, Куропатнікі, Бэрэжаны і Галіч. Гэта пацьверджаюць апошніе расейскіе офіцыяльные апавешчэньня. Аднак, гэта не зменшае вялікай вагі гэтых адрэзкоў фронту.

**Эвакуація Букарэшту.**

МАСКВА. «Русск. Сл» пішэ, што ўжо пачынаецца «ачыстка» Букарэшту. Урады і міністэрствы пакідаюць место. Румынскае правіцельство загадало эвакуацію ўсіх мест Малай і Вялікай Валахіі. Усё цэннае казённае меньне вывозяць цераз Галяц у Одэссу. Багацейшые румыны цэлымі грамадамі цераз Одэссу выежджаюць далей у Расею.

**Неудачная просьба.**

БУКАРЭШТ. Высокіе асобы кажуць, што пасьля неудач пры Гэрманштадці і Кронштадці румынская каралева прасіла помачы ў расейскай царыцы. Царыца адказала, што ня можэ споўніць просьбы, бо яна не мешаецца ў гасударственые справы.

# З усяго сьвету.

**Новы міністэр прэзыдэнт у Аўстрыі**

ВЕНА. Аўстрыяцка-вэнгерскі міністэр фінансоў, Кербэр, згодзіўся улажыць новае міністэрство.

**Справа Лібкнэхта.**

БЭРЛІН. Камісія для ўнутрэнаго распарадку ў Рэйхстагу аткінула большасьцю ўсіх проці трох соцыал-дэмократычных і польскаго голасу прэдлажэньне «соцыал дэмократычнай работніцкай еднасьці» спыніць справу Лібкнэхта і звольніць яго на ўвесь час заседаньнёў парлямэнту.

**Новы курс у Аўстрыі.**

ВЕНА. Кербэр прыняў мейсцо міністра-прэзыдэнта з умовамі: 1) каб быў заведзен новы унутрэны лад у аўстрыяцкім парлямэнці; 2) каб быў уведзен новы закон аб праве прамаўляць у Аўстрыі; 3) каб было праведзено нацыональнае разгранічэньне ў Чэхіі паводлуг паветоў.

# ТЕЛЕГРАМЫ.

**Аустрыяцкіе апавешчэньня.**

ВЕНА. 26. X. **Усходні тэатр:** Фронт эрц-гэрцога Кароля: На поўначы ад Камполунг адбіты румынскіе атакі. На палудні ад праходу Прэдэаль мы ідзем упярод. У гарах Бэрэч баварцы здабылі горны хрыбет. У даліне Протусул, ужо на румынскай граніцы, аўстрыяцкае войско выкінуло ворагоў з некалькіх пазыцій. На вяршынах над руччом Нэагра адбіты расейскіе атакі.

Фронт Леопольда Баварскаго: На поўначы ад Затурцоў атакаваўшые расейскіе батальёны разбіты перад нашымі загарадзямі.

**Італьянскі тэатр:** На нашых пазыціях у даліне Віппаха і на плоскагорыі Карст учора паабедзі быў сільны мінамётны і артылерыйскі агонь.

ВЕНА 27.X. **Усходні тэатр:** (гл. нямецк. апав.).

**Італьянскі тэатр:** Мінамётны і артылерыйскі агонь ворагоў на плоскагорыі Карст і ваколіцах за ім момэнтамі даходзіў вялікай сілы.

ВЕНА, 28.X. **Усходні тэатр:** (гл. нямецкае апавешч.).

**Італьянскі тэатр:** На палудзенным крыле прыбрэжнаго фронту трываюць артылерыйскіе і мінные бітвы. У Тыролі агонь артылеры мейсцамі вельмі узмацовываецца.

ВЕНА 29.X. **Усходні тэатр:** (гл. нямецкае апав.

**Італьянскі тэатр:** На прыбрэжным фронці узмацовываецца і пашыраецца артылерыйскі і мінамётны агонь ворагоў. На ўсходзі ад Гэрцу і на плоскагорыі Карст пяхота ворагоў пасоўваецца проці нашых пазыцій. У Тыролі агонь італьянцоў аслабеў.

---

**† Капітан Бэльке.**

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Капітан Бэльке ў бітве на паветры 28 кастрычніка здэрыўся з другім самалётам і згінуў за нашым фронтам. 27 кастрычніка ён збіў свайго 40-га ворага.

---

Ад часу сьмерці Іммэльманна Бэльке выяўляў у сабе дух героя-лятуна. На яго ўсе глядзелі с пашанай і з баязьню. Пры кожнай новай яго пабедзі ў кожнаго радзілася думка, што ён засуджэн на пагібель. Іммэльман пагіб пры 15-тай, Бэльке дайшоў 20 пабеды, пасьля — 30-ай і ішоў пабедна ўсё далей, пакуль і яму не настаў канец.

---

V.

Тэатр наш павінен стаць Храмам Нашаго Адраджэньня. Тэатр гадуець маладых „байцоў за праўду“ і даець грамадзянскую моц людзём у парэ, але занепаўшым; ён абгладжываець на добры лад характары людзей і народаў.

Толькі трэба памятаць, што тэатр — дамаская сталь, войстрая з абодвых бакоў. У тэатры можна прынасіць жэртвы Духу Чыстаты і Праўды, можна пакланяцца і Ваалу з Астартай.

Вот мы цяпер, калі адрадзіліся, і павінны будаваць свой тэатр па чэлавецку, добра, каб ён быў храмам, а ня бруднай стайняй Аўгія, і не памяшчэньнем злога бога Арымана, і не кутом дурного скалазубства...

VI.

Я не кажу, што наш тэатр павінен меці кірунак толькі практычна-карысны. О не, гэтым бы я выняў першы камень с падмуроўкі нашаго развіцьця і укароціў бы роднаму тэатру веку. Дык жэ не: дык жэ я, усё роўна, як на добрых хрэзьбінах, кажу пры нараджэньні нашаго тэатру: „Вялік расьці, здароў будзь, дай табе Божухна доўгі век!“ Гэта значыць, што наш тэатр не павінен закідаць шлях мастацкі, ён нават павінен здаволіць як людзей, каторые гавораць: „Лепш здабудзь гаршчок юшкі, чым дарма траціць час на вершык“, так і людзей, што даводзяць: „Мастацтво для мастацтва“.

Бо ведама ўсім, якое вялікае значэньне маець тэатр у жыцьці і што чэлавеку, апрача паўміска юшкі, патрэбна і страва для душы. Значыцца, тэатр наш, калі пачнець развівацца далей, пэўне будзе мець і шырэйшую дарогу, будзе здавальняць людзей з рознымі бажаньнямі. Кірунак нашаго маладога тэатру павінен быць жыцьцёва-мастацкі з дэвізам: „Падняць беларуса да ідэальнаго чэлавека!“

І, пакуль што, адправы ў нашым Храме Адраджэньня адны: цудоўнымі ў мастацтві абразамі паказываць беларуса са ўсіх бакоў і прамываць яму вочы.

VII.

Мы забылі сваю мову; старадаўная сіла і арыгінальнасць яе і гладкая, гучная форма у доўгіе часы нашай „татаршчыны“ патроху псавалася і пазычала «татаршчыны». Шмат гдзе цяпер беларусы гаворуць прыкрай мешанкай слоў беларуска-польска-расейскіх.

Тэатр наш павінен ачысьціць, абяліць мову і паказаць прад вочы людзей яе гучнасць і гібкасць. Калі паслухаць, як гаворыць абруселы або спольшчэны украінец з наваротам на „паньску“ мову, дык можна дзівіцца, што добраго знаходзяць у мове украінскай? Але ідзеця слухаць гутарку украінца ў шчыра-украінскім кутку, а потым паслухайце мову „Кобзаря“, пачуйця украінскую мову ў украінскім тэатры, калі прыстаўляецца лепшы украінскі сцэнічны твор, — і ў вас сэрцэ зайдзецца ад гучнасьці і прыгожасьці украінскае мовы. Вы будзеце шэптаць сьвятые імёны тых, што паднялі яе с пылу на торжышчы і, як драгацэнны дар Божы, зьберaглі, і сэрцэ вашэ будзе балець за тых, што ў духоўнай сьлепаце памыкаліся аддаць гэту лепшую на сьвеці мову забыцьцю.

Дык і нам, беларусам, каторые маем мову, што як родная і ня горшая сястрычка мовы украінскай, нам пры распачатку свайго театру трэба дбаць аб гучнасьці і чыстаце сваей мовы і аб тэй яе ў паўсёдным жыцьцю гумарыстычна-наіўнай сіле, што выдзеляець яе сярод усіх моў славянскіх.

(Далей будзе).

